38. Гарсэцік з чырвонага брокату, нашываны залаты
бляшкамі. XVIII ст.

39. Жаноцкі каптурок з чырвонага брокату, нашыва
залатымі бляшкамі,— як гарсэцік Р-38 — XVIII ст.

40. Гарсэцік, сіні брокат, нашываны залатымі бляшка
мі. Слуцак. XVIII ст.

41. Гарсэцік з чырвонага брокату, нашываны залаты
бляшкамі. Слуцкая тканіна. XVIII ст.

42. Гарсэцік, залаты брокат у рыб'ю луску. Слуцак
XVIII ст.

43. Гарсэцік, белы брокат у кветачкі. Слуцак. XVIII ст

44. Гарсэцік з слуцкае тканіны ў сінія і чырвоныя палоск
XVIII ст.

45. Дзіцячы каптурок, белы, шыты серабром. Вільн
XVII ст.

46. Нагруднік жаноцкі, чырвоны аксаміт нашываны зо
латам. XVII ст.

47. Нагруднік жаноцкі, на сінім аксаміце залатой ніткаю
нашываны залатыя бляшкі. Менск, XVI ст.

48. Нагруднік жаноцкі, увесь шыты серабром. Менск
XVI ст.

49. Нагруднік жаноцкі, чырвоны, тканы золатам.

50. Нагруднік жаноцкі, паясок з слуцкае тканіны, пааба
пал залатыя карункі. XVIII ст.

51. Белы брокат, шыты серабром і золатам. 154×74 см

52. Сялянскі гарсэцік з золататканае матэрыі ў палоскі
XIX ст. З. Мазыршчыны.— Дар Язэпа Драздовіча.

53. Каптурок жаноцкі (сялянскі) з устужкамі, спад Ма
ладэчны.

54. Сялянскі жаноцкі каптурок з устужкамі. Спад Ма
ладэчны.

55. Сялянскі жаноцкі каптурок, чырвоны. З в. Лоск, За
брэзскае гм. Валожынскага пав.— Дар вучня ВБГ Міха
Шчаснага.

56. Сакос, чорны аксаміт з нашытымі (перанесенымі з
старога) гафтаванымі золатам і серабром 44 фігурамі сьвя
тых і інш. аздобамі. XV ст.— Вільня.

57. Паліца, гафт. золатам і серабром. (Маці Божая) на
чорн. аксаміце. Вільня.

58. Омофор, гафт. золат. і серабром, на чорным аксаміце

59. Сакос, на чырвоным аксаміце багата гафтаваны зо
латам і серабром Хрыстос, 12 сцэн з жыцьця Хрыста і М. Б
ды інш. аздобы. XVI ст. Вільня.

60. Паліца да 59.
61. Поручы да 59.
62. Сакос, на чырвоным аксаміце гафтав. золатам і серабром «Двер небесная» (сьпераду) і Маці Божая (ззаду) з славянскімі надпісамі. XVI ст. Вільня.
63. Поручы да 62.
64. Омофор да 7 на чырвоным шоўку.
65. Эпітрахіль, чырвоны аксаміт, гафтаваны золатам і серабром і М. Б: і пэлікан, кормячы сваёй крывёй 2 малых. Вільня.
66. Паліца, на чырвон аксаміце гафтаван. золат. і серабром МБ пасярод 2 ангелаў. Навакол расьлінны орнамэнт. Вільня.
67. Паліца, на чырвоным аксаміце гафтав. золатам і серабром і шоўкам. Пасярэдзіне — Хрыстос на пасадзе; навакол — эванг. Мацьвей і алегарычныя постаці Іоана, Марка і Лукі, паміж імі — чатыры галавы анёлаў з падвойнымі крыльлямі. У абадку — славянскі надпіс. Вільня.
68. Омофор, сярэбраны гафт у рыб'ю луску з залатымі орнамэнтамі. На адным канцы гэрб уніяцкага біскупа Рудніцкага і год 1730. Вільня.
69. Паліца да 68.
70. Капа касьцельная, з ліонскага шоўку, абрамоўка з круглымі мэдальёнамі з амурамі і т. п.— Перароблена з роброну.
71. Каптур да капы № 70.
72. Орнат з сьветла-галубога шоўку, гафтаваны золатам і серабром.
73. Стула да орнату № 72.
74. Наручнік да орнату № 72.
75. Наручнік з аксаміту, пясочна-карычн. з чорным.
76. Наручнік, як № 75.
77. Наручнік з грубое тканіны, фон сіні, на ім узоры оранжавыя, перматыканыя чырвонымі, белымі і залатымі ніткамі.
78. Наручнік сьветла-пясочнага шоўку, з ручным гафтам шоўкам.
79. Наручнік з чырвонага аксаміту, затканы залатымі ніткамі.
80. Наручнік з шаўковае тканіны ў рыб'ю луску (сьветла-рожавыя і бурачковыя краі лускі), ператыканы серабром.
81. Наручнік з сьветла-зялёнага шоўку, канцоўкі выгафтаваныя рукой.

82. Наручнік з узорыстае тканіны, фон сьветлы, орна-
мант расьлінны зялёны з бурачковым.
83. Стула з зялёнага аксаміту з жоўта-залацістымі ўзо-
рамі ў готыцкім стылю.
84. Стула з шаўковае тканіны ў дробныя кветачкі.
85. Стула з сьветлае тканіны з гафтаванымі рукой расьлін-
нымі ўзорамі.
86. Стула з узорыстае тканіны, затканае золатам і кра-
камі.
87. Стула з сьветла-пясочнага шоўку, гафтаванага ру-
кой.
88. Стула з галубое тканіны з сьветлым орнамантам
(тканіна).
89. Інфула біскупская з двух частак.
90. На белым шоўку выгафтаваны рукой вазонікі з ро-
жавай гвазьдзікай.
91. Накрыўка на келіх касьцельны. (ВЭЛЮМ). Крэмавы
шоўк, на ім гафт ручны і ў сярэбраным абадку ініцыялы
IHS, унізе два вазонікі з рожамі і васількамі, на краёх рась-
лінны орнамант.
92. Накрыўка да касьц. келіха з чырвонага шоўку, пася-
рэдзіне гафтаваныя золатам ініцыялы IHS у прамяністым
абадзе сярэбр.-залат., навакол гафтаваны серабр. і зола-
расьлінны орнам.
93. Накрыўка да келіха з галубога шоўку з багатым гаф-
там. Пасярэдзіне гафтаваны серабром крыж, нава-
расьлінны орнамант.
94. Каптур ад капы, шоўкавая ўзорыстая тканіна, фон
сьветла-пясочны.
95. Патэна, серабрыстая тканіна з выгафтаванымі іні-
цыяламі $\overset{A}{M}$ у прамяністым абадку, гафтавана золатам.
96. Патэна; у прамяністым, груба гафтаваным серабром
абадку — золатам гафтаваны ініцыялы $\overset{+}{\text{IHS}}$.
97. Патэна з чырвонага шоўку. На ёй нашыты гафт: на
сьветлым фоне — Маці Божая з Дзіцянём, аздобленая пэр-
ламі. Гафт — шоўкам і золат.
98. Дыван — фон у рыб'ю луску, (......) навакол расьлін-
ны. З фабрыкі Тызэнгаўза ў Горадні (Другая палова
XVIII ст.).
99. Дыван ручное работы (рознакалёрныя ромбоідныя

фігуры на пясочным фоне). Пачатак XVIII ст. Адзін край абрэзаны паўкругам.

100. Дыван габэленавае работы, пясочнага колеру. Пасярэдзіне — букеты з рожаў на зеленоватым фоне.

101. Баярская шапачка, гафтаваная золатам і серабром, верх круглы, на чырвоным аксаміце.

102. Як № 101. Лепш захаваная.

103. Круглая шапачка — «ярмолка» — з слуцкае тканіны (у рыб'ю луску), серабро з чырвоным шоўкам.

104. Шапачка круглая — «ярмолка» — на жоўтым шаўку сярэбраная вышыўка (з бляшкамі).

105. Шапачка круглая — «ярмолка» — з тканіны сярэбранай з кветкамі чырв. і зялёнага колеру.

106. Такая-ж — са шклянымі аздобамі, гафт шоўкам ручны.

107. Аксамітная, золатам гафтаваная, калітка на грошы.

108. Мяшэчак на грошы з дробных пацерак («бісер»), работы з паловы XIX ст. (з сям'і Луцкевічаў).

109. Мяшэчак на грошы з дробных пацерак.

110. Вельмі маленькі мяшэчак на грошы з дробных пацерак.

111. Падвойны мяшэчак на грошы з дробных пацерак (жоўтага колеру).

112. Вышыванка дробнымі пацеркамі. Пэйзаж.

113. Ланцужок на шыю з дробных пацерак з засьцёжкай.

114. Мяшэчак насьценны да гадзіньніка — вязаны з дробнымі шклянымі пацеркамі (серабрыстымі).

115. Мяшэчак насьценны да гадзіньніка — чырвоны, вязаны з залацістымі пацеркамі.

116. Мяшэчак вязаны (шоўк) на грошы.

117. -″- -″- -″-

118. -″- -″- -″-

119. -″- -″- -″-

120. Торбачка дамская дзеля нашэньня на руцэ з фіалетавага аксаміту з нашытымі аздобамі з выразанага пер'я і серабра.

121. Дамскія туфелькі з жоўтага шоўку.

122. -″- -″- з зялёнага шоўку.

123. Сьцяг аднае паўстанчае партыі 1863 г.— з Ашмяншчыны. На белым фоне — укосны «андрэеўскі» крыж з сі-

няга матар'ялу, у ражку ўверсе пры шнуры да завешван ня — на чырвоным квадраце белы польскі арол. Здабыт палкоўнікам Пётрай Пахомавым, які не аддаў яго ўлада а захаваў дома, у двары Скарбуцяны, каля Ляндварова Дар сына яго, Мікалая Пахомава. Памеры: 106×80 см (шырыня сярэдзіны). Значна зьнішчаны — збутвелы, аса ліва белы матэрыял.

Паводле інфармацыі праф. Нарэмбскага (.....) сьцяг гэт быў здабыты ў бітве пад Уладыкамі і належаў да парт Казеллы.

124. Арнат, зроблены з «літага» Слуцкага пояса з под сам «Лео Мажарскій в городе Слуцке». У некаторых мей цах значна пацёрты. Дэпозыт д-ра Б. Грабінскага ў Віль 20×38.

125. Стула з шаўковага Слуцкага пояса. Дэпозыт д-р Б. Грабінскага. 20.X.38.

126. Каптурок жаноцкі, чырвоны, з кветкамі на навуш ках,— спад Дзісны. Дар д-ра Ст. Станкевіча. 2.XI.38.

**Працяг будзе.**

МАГДЭБУРГІЯ — месцкі, грамадзянскі суд
МІСЮРКА — плоскі шышак усходняга тыпу зь мэталёвым кальчужным чапцом
ПАМАРАНІН — тут: жыхар памор'я ці Прускай Памараніі
ПРАМАВАВАЦЬ — вылучыць, падтрымаць
ПРАСЭСІЯ — намесьніцтва
РАБАРАЦЫЯ — у зацьверджаньне ў судзе прыватна падпісанага акту
РЭВАЛІНА — дапаможная фартыфікацыйная забудова перад крапасной агароджай, равелін
РЭЗУРЭКЦЫЯ — велікодная працэсія з сакрамантам вакол касьцёла
РЭПРЭСАЛІІ — тут: меры ў адказ
РЭТРАНШАМЭНТЫ — дапаможная фартыфікацыйная забудова дзеля ўмацаваньня ўнутранай абароны
ТРУКСЭС, трукчашы, струкчашы — тое ж, што і стольнік, прыдворная пасада
ХОЦІМСКАЯ БАТАЛІЯ — перамога войскаў Рэчы Паспалітай пад камандаю Яна Сабескага над турэцкім корпусам Хусэйна Пашы ў 1673, каля места Хоцім над Дняпром, на паўднёвым захадзе Украіны
ЭКЗЭНТЭРАВАЦЬ — анатамаваць труп
ЭКЗОРТА — памінаньне, памінальная імша

**Пераклад і публікацыя Вацлава АРЭШКІ**

# ІНВЭНТАРНАЯ КНІГА
## Музэю ім. Ів. Луцкевіча Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні
## № 1

Пачата 3 чэрвеня 1922 г.

**R. Судзьдзе (медзь, цына, гліна, шкло, фаянс)**

1. Цыновы паўмісак (дно дзіравае). На абадзе — герб

2. Куфаль з крышкай, цыновы (унізе збоку вялікая дзірка). У крышцы знутра — расьпяцьце ў мэдальёне; у дне — мэдальён з М. Божай з дзіцянём. Знойдзены ў зямлі ў ваколіцы Каложскае царквы ў Горадні.

*Пачатак у №№ 1—3, 1995 г.*

3. Цыновы паўмісак. Абадок аздоблены орнамэнтам рытым у тры матывы.

4. Цыновая чарка, без аздоб, простае работы.

5. Цыновая талерка, край аздоблены круглымі пупышкамі-пацяркамі. ∅ вял.— 28 см. ∅ сярэдні — 22.

6. Падоўжны цыновы паўмісак. Адзін край часткова абламаны, другі — трэснуўшы. Прафіляваны з клеймом на дне з тылу (сьцертым, толька відна слова «Sonant» і часьці герба. 33×44. XVIII?

7. Круглы медзяны таз, дно ў двух мейсцах прадзіраўленае. Без аздоб. Знойдзены ў зямлі ля Каложскае царквы ў Горадні.

8. Медзяны «гусак» да мёду ці вады. Знойдзены ў Вільні ў зямлі падчас нямецкае акупацыі на падворку аднаго з дамоў у цэнтры места.

9. Прыбор да мірапамазаньня. Цына. Каробка аздоблена расьлінным орнамэнтам і фігурамі сьвятых грубае работы. На крышцы — правасл. крыж. Перароблена пазьней. У сярэдзіне 2 бутэлечкі на алей, губкі кавалак, малыя нажнічкі і серабраны падзелак (?) з крыжыкам.

10. Чатырохкутная цыновая судзіна, знойдзеная з грашыма ў зямлі ў вёсцы Віляхоўцы, Рагачоўскага павету Магілёўскае губ., 19.X.1894 году.

11. Цыновая ампулка (касьцельная) да вады ці віна. На крышцы знак A.

12. Цыновая ампулка, парная да 11. Крышкі не хапае. Падобная да 88 R.

13. Медзяная ампулка (касьцельная) да вады (бяз крышкі).

14. Цыновая вазачка. Ножка чатырохкутная, падысподам кляймо: ангел з аліўкавай ґеткай; зьверху надпіс: Vilnia; знізу; JO Meb. Fischer. 1792.

15. Цыновая вазачка XVII ст. На ножцы падысподам літары: C.M.E.V.

16. Цыновая вазачка XVII ст. Ножка квадратная. Падысподам кляймо, як у № 14 (парная да яе). Вышыня — 16,5.

17. Цыновая вазачка.

18. Цыновая вазачка XVII ст. Пад падставай кляймо — герб. Вільня.

19. Цыновая вазачка такая самая, як і 17. Выш. 19,5, шыр. 17.

20. Цыновая вазачка XVII ст. Вільня. Падобная да 15 R з той розьніцай, што бяз раўчакоў на бакох (дзіураваяя).

21. Мядзяная мерка да гарэлкі — 1/200 вядра. Кляймо; Вільна, Хаимъ Лавникъ. 1891 г. Бронзавы браг. Ручка адарваная. На дне таксама надпіс «Лавникъ».

22. Цыновы ўмывальнік з крышкай. Верх выпуклы. На крышы галава анёлка «Putti». Дзіуравы, 6-кантовы.

23. Мядзяная мерка да гарэлкі — 1/20 вядра. Кляймо: Минскъ. Л. Гарцикер. 1876 г. Ручка адламана.

24. Шчыпцы да абразаньня нагару на сьвечах і падстаўка да іх. З двара Пятроўшчына Альшэўскіх, Вялейскага пав. Дар. Марыі Карніцкае. 3/VIII.1911 г.

25. Ліхтар бронзавы, аздобны. Падстаўка квадратовая. Ампіровы ў форме калонкі.

26. Ліхтар — бронз і сіняе шкло. Шкло пабітае, захавалася толькі частка. У стылі «empir». Падстаўка квадратовая.

27. Падвойны ліхтар з абажурам. Накладное серабро (Фражэтаўскае). Ад гр. Б. Данейкі з Карасной Наваградзк. пав.— 1932 г. З XIX в.

28. Шчыпцы да зьніманьня нагару на сьвечах і падстаўка да іх. Усё пасярэбранае. Ад гр. Б. Данейкі з Карасной, Навагр. пав., 1932 г. У рококовым стылі з XIX в. Разьмер ножычкаў 18×7×4,5. Падстаўка: 24×10×1,4. На обух кляймо: Warszawa Norblin 8° C° — PLAGUE.

29. Хрысьцільніца XVIII ст. з касьцёлу сьв. Баўтрамея у Вільні (Зарэчча). Фаянс — выраб віленскіх майстроў. Паліва белая і зялёная. Хрысьцільніца складаецца з трох частак. Бераг абнішчаны. Разьмер 160 см., высокая.

30. Фаянсавая кружка з чалавечым тварам. Паліва белая і зялёная. Віленскі выраб XVIII ст. Вершок — 34R. Разьмер: 17×16×12.

31. Фаянсавая кружка, як 30. Паліва белая. Без пакрыўкі. Разьмер: 12,5×16×11,5.

32. Фаянсавая сольнічка, паліва белая і зялёная. Вільня. XVIII ст. Разьмер 11×7×5,5. Адзін рог адбіты.

33. Фаянсавая сольнічка, як 32. Паліва белая. Разьмер: 11×6,5×5.

34. Фаянсавая пакрыўка ад нейкае судзіны. Паліва зялёная. Вільня, XVIII ст.

35. Міска паліваная, орнамэнт багаты сіні з чорным на белым фоне.

36. Міска паліваная, орнамэнт багаты зялёны з чорным на белым (кремовым) фоне.

37. Міска паліваная, на зялёным фоне чорны багаты орнамэнт.

38. Місачка паліваная, пад мармур (калёры: чырванаваты, цёмна-карычневы, зялёны). Дзюравая.

39. Гаршчок паліваны, колер аліўкавы, навакол выцісканы ўзор. Сучкаваты.

40. Глячок гліняны з вузкім горлам, з вушкам. Паліва жоўтая (охра).

41. Паліваны гаршчок, аліўкавага колеру з орнамэнтам жоўта-карычн. маляваным.

42. Гліняны збанок з вухам, верхняя палова паліваная (сьветлая). Колеру натур. гліны.

43. Збанок з вухам. Паліва галубая, орнамэнт паводле ўзораў з слуцкіх паясоў (колеры: белы, чырвоны й зялёны). Работа перадваенная.

44. Збанок гліняны, паліва сьветлая, жоўтаватая, орнамэнт — кветкі зялёна-карычн. 2 шт. З ухам. Разьмер: 31 выш.

45. Гаршчок аплецены бяростай. З гліны чырвонай пачарнеўшы.

46. Судзіна з чырвонае гліны, формы конуса. Выкапана ў зямлі сялянамі ў сяле Баўгары, Казанскае губ., на руінах старое баўгарскае сталіцы Баўгарад. Горла — бераг вышчарблены.

47. Гаршчок з крэмовай гліны непаліваны, з малым вушкам, у верхняй часьці аздоблены чырвоным орнамэнтам. З пад м. Капыля, Слуцкага пав.

48. Малы паліваны збаночак, аздоблены навакол гірляндай кветак (сініх з жоўтымі сярэдзінамі) на сьветлажоўтай паліве. Карычневыя лісткі. Патрэсканы, дзіуравы.

49. Частка глінянае судзіны, пакрытае звонку чорнай палівай. З дном. Усе берагі аббітыя.

50. Малы збаночак з вузкім горлам і вушкам з сьветлашэрага колеру гліны (зьверху вышчарблены).

51. Малы глячок з чырвонае гліны.

52. Гліняны сьвісток — чалавек на кані трубіць у рог. Цёмна-карычневая паліва. Куплены ў Вільні на «Казюку» (да вайны). Адламаная 1 тыльная ножка каня.

53. Гліняная фігурка: пані ў капялюшы з куркай пад пахай. Паліва цёмна-карычневая. Куплена ў Вільні на «Казюку» (да вайны).

54. Гліняная фігурка: пані ў капялюшы. Паліва жоў-

тая. Куплена ў Вільні на «Казюку» (да вайны). Бераг капелюша адбіты.

55. Гаршчочак з маленькім вушкам. З жоўтае гліны.

56. Гаршчок з цёмна-шэрае гліны.

57. Гліняная чырвоная судзіна кулістае формы з двума малымі вушкамі. Поверх у пасачкі.

58. Гліняны глячок, высокі, вузкае дно, к верху расшыраецца, з вушкам. Чырвоная гліна.

59. Збанок з войлаку, абмазанага глінай. Вушка адбітае. З 60-х гадоў XIX ст. Ад А. Г. у Вільні. Бераг абламаны.

60. Частка глінянае судзіны на ножках (як патэльня), сярэдзіна паліваная (зялёная), з ручкай. Знойдзена ў зямлі каля царквы сьв. Тройцы (у Базыліянаў) у Вільні.

61. Гліняная плоская, круглае формы, бутэлька-манерка, паліваная, з орнамэнтам зялёна-чырвона-жоўта-карычн. на белым фоне.

Разьмер 14×15,5×5,5.

62. Барэльеф з гліны — конская галава. Жоўтая палiва. Работа івенецкіх ганчароў. Ад гр. Мальчыка з Івенца. 29/XI.32. Копія з безвартасьцявай ярмарачнай скульптуры.

63. Місачка з шэрае гліны, раб. гр. Сіняка ў Пружанах,— ахвяра яго-ж. Бераг пакрышаны.

64. Гаршчочак з крышкай і вушкам,— як № 63.

65. Місачка з вушкам,— як 63. Алавяны колер — задымка.

66. Гладышок,— як № 63. Алавянага колеру.

67. Гаршчочак з крышкай і вушкам, як № 63.

68. Збан да вады. Белы фаянс з аздобамі. Сьветла-ліловыя кветкі і зялёныя лісты касача маляваныя алейнай фарбай. На дне кляймо з рускім арлом і напісам «Товарищества М. С. Кузнецова, К.Р.М. Parylinc S. Busch». Дзюб вышчарблены і дзюравы.

69. Шкляны збан, навакол аздоблены сьпіральнай лініяй ад верху да нізу. Шкло зеленаватае,— краёвае патрэсканы. Уха ўклеяна не наўпраціў дзіубка.

70. Шкляны ліхтар.

71. Шкляная бутэлечка, з высокім горлам. Адліў апалёвы — белавата-перламутравы.

72. Высокі шкляны келіх да шампанскага. Шкло ўрэцкае (фіалетавы адліў). Стойка разная.

73. Шкляная гарбатніца кубічнай формы з коркам шкляным (Урэчча). Шкло белае рэзанае.

74. Шкляная гарбатніца, круглая, шліфаваныя грані, крышка закручастая з волава. Адценак фіалетавы (Урэчча).

75. Шкляначка з урэцкага шкла, фрагмэнт гравіраваны (абадок). Адценак фіалетавы.

76. Шкляначка з урэцкага шкла. Абадок гравіраваны і матаваны.

77. Шкляная бочачка да сьпірытусу. Шкло зеленаватае,— краёвае. Грубая работа.

78. Шкляная лямпачка, шкло грэцкае, верх бронзавы, орнамэнт рэзаны.

79. Шкляны збаночак, шкло цёмна-фіалетавае, аздоблены кветкамі залатымі.

80. Шкляная бутэлечка склокочаная з выразанымі літарамі K.Z. Адліў апалёвы.

81. Бутэлечка з каляровым паяском (фіалетавым, жоўтым і залатым) да сушэньня чарніла.

82. Бутля да гарэлкі. Шкло зеленаватае, краёвае.

83. Бутэлька ад «старкі» з Лагойску. З гербам Тышкевічаў.

84. Вялікі медны збан да вады. Дэпозыт Дэборы Абрамовіч (Вільня). З накрыўкай.

85. Мядзяная судзіна (Ваза да кветак?), дно вузкае, верх пашыраны, краі загнутыя. Усярэдзіне пабяляная. Памеры: выш. 17,3 см, дыяметр верху 12 см, дыям. нізу — 6 см. З Поразава, Ваўкавыскага павету. Дар гр. П. Сергіевіча.

86. Сярэбраная ампулка, унізе і ўверсе абадочкі з арнамантам. Нехапае ручкі і пакрыўкі. Памеры: вышыня (з

88




89



дзюбікам) 6,9 см, дыямэтр дна 4,8 см. З Ваўкавыскага пав.— ад гр. П. Сергіевіча.

87. Алавяная ампулка, нехапае пакрыўкі. Вышыня 9,3 см. Край падстаўкі крыху абламаны. Паходж., як папярэдніх.

88. -»- -»-. Вышыня 8,2 см. Падобная да 12.

89. -»- -»- з пакрыўкай, зусім цэлая. Вышыня 7,7 см. Паходж., як папярэднія. На пакрыўцы знак.

### S. Малярства

1. Смуглевіч. Сцэна клясычная: прывоз урны з попелам памершага. Кароль на крэсьле (троне) і 9 жаночых постацяў. 66×164 см.

2. Марцэлі Янушэвіч (1759 г.). Партрэт старэйшае жанчыны ў народнай вопратцы — са сьвечкай у руцэ, сьвятло якое прыкрыта другой рукой. 52×63.

3. Сьлендзінскі. Жаноцкі партрэт. 53×69.

4. NN. Партрэт мужчыны (аўтапартрэт?), з папяросай у руцэ; перад ім шклянка гарбаты на стале.

5. Reichan. Партрэт паўстанца Невяровіча-Тысевіча. 35,5×50.

6. NN. Партрэт Кс. Магнушэўскага (?). 43,5×54.

7. Ян Ксавэры Каневскі. Партрэт Адама Міцкевіча. На адваротнай старане надпіс: 1845 г. Sierpnia, Justynowi-Jan. Petersburg. 20,5×27.

8. Demetryusz Popoff. Партрэт Яна Чачота — хворага, на падушках. 38,5×43.

9. Пэшка. Партрэт віленскага бурмістра Вэйсса. (1798 г.). 44×56,5.

10. NN. Партрэт жонкі віл. бурмістра Вэйсса. (1798 г.). 43,5×57.

11. NN. Партрэт кампазытара Міхала Огінскага. 58×71.

12. NN. Партрэт невядомага. Надпіс нерасчытаны. 70,5×90.

13. NN. Партрэт Стэфаніі Вітгенштэйновай, з дому Радзівілоўны. Овальны, у залочанай раме з радзівілаўскім гербам. 36×46.

14. NN. Партрэт гэтмана Коссакоўскага, павешанага ў Вільні на ратушовым пляцу ў 1794 г. 55×65,5.

15. NN. Партрэт ваяводзіны інфлянцкай Гільзэновай (твар прабіты). 51×66,5.

16. NN. Апошняя слуцкая княжна Зофія Олелькоўна. 35×47,5.

17. NN. Партрэт Самуэля Еленскага, падчашага мозырскага, старасты барысавецкага. 53×65.

Згодна з пастановай Ураду Б. Н. Т-ва з 4.VI.39. заменены з ротм. С. Новіцкім на два партрэцікі жаноцкія работы праф. Рустэма з 1817 г. (22×28 см.). Ант. Луцкевіч.

18. NN. Партрэт невядомага шляхціца. 43×54.

19. NN. Партрэт каноніка. 33×43.

20. NN. Партрэт Вітгенштэйна Пётра (1812 г.) з Вэраа. 65×76,5.

21. NN. Партрэт кн. Язэпа Панятоўскага 47,5×64.

22. NN. Партрэт караля польскага Аўгуста Саса. 90,5×116.

23. NN. Партрэт жонкі караля Аўгуста Саса. 91,5×118.

24. NN. Хруцкі. Партрэт мітрапаліта Язэпа Семашкі. 59×71,5.

25. NN. Біскуп Віленскі Ян Завіша. (1656—1661). 61×75,5.

26. Піотровскій. Партрэт арх. Дроздова, рэктара Літоўскае сэмінарыі (1887). 36×45.

27. NN. Партрэт афіцэра расейскіх войск X. 57,5×67.

28. NN. Партрэт імператара Паўлы I. 55×68.

29. NN. Партрэт жонкі імп. Паўлы I. 55×68.

30. NN. Партрэт В. Кн. Вітаўта. 51×73.

31. NN. Партрэт эміра Жэвускага, у турэцкай вопратцы. 61×76.

32. NN. Партрэт Домініка Радзівіла. 49×60.

33. NN. Партрэт няведамага мужчыны. 33,5×44,5.

34. NN. Партрэт хлапца (кадэта?), на картоне. 22,5×27.

35. NN. Партрэт няведамага афіцэра гузарскага палка. 17,5×22.

36. Fiedler (1845). Партрэт няведамага мужчыны (акварэль). У сучаснай рамцы, пакрытай аксамітам і аздобленай розэткамі з косьці. 16×18.

37. Школа Брюллова. Паводле сьвядоцтва ген. Жыркевіча, партрэт гэты зьвязаны з сям'ёю віленскага філянтропа д-ра Лего (другая палова XIX ст.). Ці на партрэце прадстаўлена дачка Лего, партрэтаваная вучаніцай Брюллова, ці наадварот — вучаніцай Брюллова была сама дачка д-ра Лего і партрэтавала некага іншага,— ген. Жыркевіч не памятаў. 87×105,5.

N. B. Пані Домбровская, дачка Подэрні, сьцвярджае, што гэты партрэт прадстаўляе не дачку, а жонку д-ра Лего, бо дзяцей у яго не было. Жонка прадстаўлена ў маладым веку, в п. Домбровская ведала яе ўжо старой, але знаходзіць, што падобна

да партрэту. Такім чынам, аўтар (— ці аўтарка) партрэту астаецца няведамым.

38. NN. Партрэт дамы ў белай сукні (акварэль). 20×25.

39. NN. Партрэт вясковае дзяўчыны, на дошцы. На адвароце — крэпка сьцерты надпіс алавіком у польскай мове (верш). 20×32,5.

40. NN. Партрэт няведамага мужчыны (акварэль). 22×26,5.

41. NN. Партрэт расейскага афіцэра (картон). 13×15.

42. NN. Партрэт Рабі Элі, с. Салямона, валожынскага рабіна, памершага ў Вільні ў 1797 г. (на палатне). 34×41.

43. Тое-ж (на дошцы). 20,8×28,2.

44. NN. Фэліцыян Данейка (на адвароце надпіс: Felicyan Danieyko Sędzia Prezyd: y Rotm: Pow: Nowogr. 57,5×70,5.

45. Kargis, 1859, Nowogródek. Партрэт Д-ра мэдыцыны Люцыяна Данейкі. 42×55,5 см.

46. NN. Тодар Данейка, Судзьдзя Наваградзкі. 39,5×52 см.

47. NN. Партрэт Марыі з Данейкаў Міхаловае Тукалловай, ж. судзьдзі гродзкага ў Лідзе. 39×52 см.

48. NN. Язэп Данейка (на адвароце надпіс: Józeff Danieyko, Sędzia Ziems: Chorąży pttu Nowogr:) 39×54 см.

49. NN. Б. польскі сэнатар Ігнат Мазуркевіч. Овальн. 27×34 см.

50. NN. Д-р Мазуркевіч, б. лекар польскіх войск, брат сэнатара Ігната (№ 49). Овальн. 26,5×34 см.

51. NN. Мазуркевіч, афіцэр кавалергардзкага палка. Оваль, 28×33,5 см.

52. NN. Язэп Мазуркевіч, камандзір Літоўскага палка лейб-гвардыі. Оваль, 16×19 см.

53. Рокштуль. Партрэт няведамага мужчыны ў сінім фраку. Акварэль у орыгін. скураной рамцы. Оваль, 15,5×19 см.

54. NN. Кляшторная школа. Манах дыктуе вучням (7 асоб), якія сідзяць за сталом і пішуць. Над імі лунае Сьв. Дух. Унізе ў левым куце надпіс з вялікай выпаленай

№№ 44—52. Дэпозыты Б. Данейкі з м. Карасная, Наваг. пав. Мазуркевічы праз жанімства параднiліся з сям'ёй Данейкаў.

дзірой: S. Antonius Patavinas primus ex Suo ordine... profuit. 85×133 см.

55. Лосенко. Абраз сьв. Андрэя (копія — арыгінал у Ленінградзе — у «Рускім Музэі»). Арыгінал намаляваны ў 1764 г. 77×93,5 см.

56. NN. Няверны Тамаш кладзе палец у раны ускросшага Хрыста. 118×89 см.

57. Чэховіч (?). Маці Божая з дзіцём і сьв. Антоні прад ёю на каленях стаіць. 97×173 см.

58. Чэховіч (?). Узьнясеньне М. Б. на неба. Крэпка перамалёваны. 98×148,5 см.

59. NN. Маці Божая, акружаная манашкамі,— усе ў трынітарскіх вопратках. Значна панішчана. 116×189 см.

60. NN. S. Cilianus. 104×221 см.

61. NN. Хрыстос у цярнёвай кароне і трысьцінай у руцэ (да пояса). 50×65 см.

62. NN. Маці Божая з дзіцём. 68×68 см.

63. NN. Маці Божая з дзіцём. Над абоімі прымацаваны мэталёвыя рэпусаваныя пасярэбраныя і часткова пазалочаныя кароны. 60×91 см.

Паводле азначэньня кс. Малыніча, гэта ёсць абраз М. Б. Бялыніцкае (Бялынічы — каля Воршы, у Магілёўшчыне).

64. NN. Благавешчаньне М. Б. 46×58 см.

65. NN. Маці Божая. 42×53,5 см.

66. NN. Маці Божая з дзіцём. 35,5×44,5 см.

67. NN. Маці Божая з дзіцём, як № 66, толькі ў цёмных калёрах. 44,5×54 см.

68. NN. Сьв. Алена з вялікім крыжам (на якім быў расьпяты Хрыстос) у руках (стаіць). 46×63 см.

69. NN. Хрыстос з палаючым сэрцам, унізе кленчаць жаноцкія фігуры. 26,5×37,5 см.

70. NN. Расьпяты на крыжу Хрыстос. Табліца над ім: J.N.R.J. Картон. 31,5×48 см.

71. NN. Сьв. Антоні. У рукох кніга з надпісам: Tacni semper silni patiens... Падысподам надпіс напалову зрэзаны. Значна зьнішчаны. 45×58,5 см.

72. NN. Узяцьце М. Б. на неба. Надпіс: «Tej poczęci bez zmazy głowę węża ściera, którą Mocarz Niebieski za Matką obiera». 34,5×45,5 см.

73. NN. Маці Божая. Шаўковая шата, з аздобамі з крышталаў і каронай. Рамка пакрыта сінім аксамітам. 28×45 см.

74. NN. Хрыстос (да пояса) трымае прамяністае сэрца. Акварэля овальная. 9×11,5 см.

75. NN. Абразок на жалезнай блясе: сьвяты (?) у карычневым манашым габіце — стаіць на каленях, а з хмары сыплюцца з дзьвюх рук залатыя яблыкі і пэрлы. У глыбіні — каплічка. Угары — вока ў трыкутніку. 11,5×15,2 см. (Народнае мастацтва).

76. NN. S. Kazimierz Wyznawca. Колёров. гравюра. 35×51 см.

77. C. Mellan. Gr. pinx. et. sc. 1647. Хрыстос на крыжу (гравюра), дэдыкована Людовіку XIV. 55×83 см.

78. Lucca van Leyden (копія). Мучаніцтва Хрыста ў галоўных сцэнах (ад хрышчэньня ў Іоанна да ўзьнясеньня на неба). На дошцы. Орыгінал быў у плебаніі пры касьцеле ў Полацку ў кс. Будзькі і згарэў падчас пажару плебаніі. Копія зроблена ў Вільні Л. Дунін-Баркоўскай (пасьля па мужу Ромуальдавай Земкевічавай). 55×48 см.

79. NN. Галава старога. 45×54,5 см.

80. NN. Галава старога (значна паднішчаная) 46,5×55 см.

81. NN. Nature morte. (Палатно дублёванае). 90×115 см.

82. Rossi. Партрэт мужчыны (акварэля). 16×20,5.

83. NN. Язэп Лукашэвіч, б. капітан польскіх войск (акварэля, васьмікутная) 12,5×14.

84. NN. Партрэт мужчыны ў мундзіры з крыжам на грудзёх (неправ. оваль). 12,2×15.

85. NN. Партрэт дамы — pendent да № 84. (неправ. оваль). 12×15.

86. NN. Галава жанчыны. 35×48,5.

87. J. Cabp... ...(?), 1885. Партрэт дзяўчыны. 39,5×44,5.

88. И. Трутнев (?), Roma 1864. Дзяўчына ў народнай вопратцы. 25×37.

89. Кануты Русецкі, Вільня. Беларуская дзяўчынка ў нацыянальнай вопратцы — з вербамі на Вербніцу. На фоне нутра касьцёлу (сьв. Міхала?) (Ідэнтычныя абразкі, размножаныя аўтарам, ёсьць у Тав. прыяцеляў Навук і ў п. Юрыя Курнатоўскага ў Вільні). 34×45.

90. Ів. Трутнев (?). Дзед беларускі — прадавец венікаў. 18×30.

91. I. Вэндорф, 1821. Сцэна з жыдоўскага жыцьця (акварэля). 16,5×17.

92. De L. Greuse, 1836. Маці з дзяўчынкай. (аквар.). 15,5×21,5.

93. Іконка М. Б. з Дзіцём, на дрэве, тыпу грэка-італьянскага, XIII ст. 10,8×11,3 см.

94. Рыза сярэбраная, залочаная, да № 93.

95. Складзенне: левая частка — МБ з Дзіцём, правая — М. Б., Хрыстос на троне і сьв. Іоан. XVII ст. 7×7,4.

96. Складзень, апраўлены ў пазалоч. бронзу з каменьмі. Левы: Хрыстос і Бог Ацец; правы — сцэна ўскрашэньня Лазара. Каля 1600 г. Аправа — з XVIII ст. 5×5.

97. Складзень, апр. у серабро і ў срэбных рызах. Малюнак в. зьнішчаны. 7,5×6,5.

98. М. Б.— у чэраве Хрыстос. Белар... (?) XIV—XV ст. 13,7×14,5.

99. Абразок на дрэве, крэпка зьнішчаны. 6,4×9,6.

100. «Цельнік». Сьв. Радзіон і нейкі другі сьвяты. Маляваны на дрэве, XVI ст. Рыза сярэбр. пазалоч. Знойдзены ў Вільні. 3,5×4,5.

101. Круглаватая іконка М. Б. на дрэве, бяз Дзіцяці, з грэцкімі ініцыяламі. Пакрыта сярэбр. рызай. Памеры овалю: 5×6 см.

102. Овальная іконка М. Б. з Дзіцём — Жыровіцкая, на камені. Памеры овалю: 4×5,2.

103. Благавешчаньне Марыі, ікона на дрэве Рублёўскае школы (Масква). XVI ст. 28,5×36,2.

104. Ікона на дрэве: зьлева сьв. сьв. Мікалай і Ціхан, справа князі Тодар і Расьціслаў, паміж якімі — сьвяты мніх. Пскоў. XVII ст. 27×31,7.

105. Ікона на дрэве, Строганаўскага пісьма. Пасярэдзіне сьв. Іоан, навакол дробныя абразкі, па краёх справа і зьлева фігуры сьвятых. У рэзанай з дрэва ажурнай раме, залоч. 38×44.

106. Сьв. Іоан, у левай руцэ залатая куля, на якой намалёвана цела Хрыста. Па краёх — фігуры сьвятых. Малёвана на дошцы. 27,5×31,5.

107. Маці Божая з дзіцём (ніз папсаваны) — на левым краю муч. Анісім. На дошцы. 25,5×30.

108. На дошцы, падзеленай на 4 часці,— чатыры абразкі: 1) М. Б. з Дзіцём; 2) Сьв. Мікалай; 3) Сьв. Юры на кані; 4) Сьв. Мікіта — Ад М. Машары, в. Тобалы, Дзісьненск. пав. 20,5×27,8.

109. На дошцы — сьв. Мікола Чудатворац, на залатым фоне. Над ім — Хрыстос у хмарах. Па чатырох рагох — сцэны. 17,8×18.

110. Трое сьвятых (у тым — адна сьвятая), на дошцы. 13×17,8.

111. На дошцы — сьв. Мікола Чудатворац, па бакох на роўні галавы — Хрыстос і М. Б. 13×16,5.

112. Ікона М. Б. з Хрыстом — на дошцы. Фарба крэпка аблезла. 28×32,2.

113. Сабор архістраціга Міхала. У левым верхнім рагу — сьв.сьв. Кузьма і Дземян. На дошцы. 33,8×44.

114. Сьв.сьв. Васілій Вялікій, Григорій Богослов і Іоан Златоуст. Дошка крэпка паедзена шашалём. 26,5×31,2.

115. Сьв. Мікалай. Па бакох на роўні галавы ў круглых абразкох Хрыстос і Марыя. Краі і дошкі паднішчаны. 24×29.

116. Усьпеніе Пр-ыя Богородицы. На дошцы. Лікі паніщчаны. 35,5×41.

117. Собор Пр-ыя Богородзіцы. (Паднішчаны). На дошцы. 36,4×45,1.

118. Пяцера сьвятых — у рад. Над імі — Усьпеніе Пр. Богородзицы. У ажурнай, рэзанай з дрэва и залоч. раме. 28,5×34,5.

119. Абраз М. Б. з Дзіцём на дошцы. 47,5×86.

120. М. Б. на дошцы. У рукох — зьвітак пэргаміну. Дошка пасярэдзіне трэснула. 37,5×47.

121. Хрыстос на крыжу, у глыбіні — від Ерусаліму, у чатырох кутох — абразкі, па краёх справа і зьлева па дзьве фігуры сьвятых. На дошцы, у раме. 35,5×44.

122. Абраз «Ярое око Г-да нашаго Ісуса Хрыста». На дошцы. Па бакох — сьв. Зосіма і Саватій. 39×46.

123. Маці Божая з Дзіцём. На дошцы. 27×31.

124. Хрыстос, у адной руцэ трымае Эвангельле, другая зложана, як да жагнаньня. На дошцы. 27,5×32,5.

125. Абраз: «Огненное восхождение пророка Ільі». На дошцы. 18×22.

126. Абразок на дошцы: Угары — Хрыстос, пад ім ангел пярунамі паліць групу грэшнікаў, з бакоў — двое сьвятых стоючы. 14×18.

127. Сьв. Мікалай, на дошцы (пасярэдзіне трэснутай). Угары з бакоў — Хрыстос і М. Б. 38,5×49.

128. Абраз: Покров Пр. Богородицы. На дошцы. 40×53.

129. Абраз «Тихвинскія П. Б-цы». На дошцы. 21,5×27.

130. Абраз М. Б. на дошцы, у сярэбр. рызе. 27,5×32.

131. Усьпеніе Пр. Богородицы. На дошцы. 27,5×32.

132. Абраз М. Б. з Дзіцём. На дошцы. Беларускае школы. 26×31.

133. Гафтаваная серабром рыза да № 132.

134. Образ «Всех Скорбящих Пр. Б-цы». На дошцы. Белар. школы. 28,5×34,3.

135. Абраз забойства царэвіча Дымітрыя ў Угліча. Уверсе Крэмль Угліча, унізе — сцэна забойства. Па баках стаяць сьвяты і сьвятая — у вялікакняжых вопратках. На дошцы. Пачатак XVII ст. 27,5×31,5.

136. Абраз Хрыста на пасадзе. З бакоў — М. Б. і сьв. Іоан, а ў гары — ангелы. Подпіс: «Аз есьм всему міру Свет» кірыліцай, пад М. Б. — монограма лацінкай. Фон залочаны з разьбой. На дошцы. 19,5×23.

137. Сярэбраная рыза да № 136, з беларускім надпісам — ад лаўніка слуцкага Рэута, 1801 г.

138. Хрыстос (да кален) з паднятай уверх рукой. На палатне. Рамка аздоблена разьбой. 18,5×26.

139. Сьв. Мікалай. Угары — Хрыстос і М. Б. На дошцы. 22×27.

140. Абраз М. Б. з Дзіцём. На ранце — фігуры сьвятых. Фон залочаны, орнаментаваны. На дошцы. Беларуск. школа. 44×53.

141. Абраз М. Б. Пячэрскае. На дошцы. 23×27,2.

142. Хрыстос на крыжу. На фоне Ерасаліму. На дошцы. 27×38,5.

143. Сярэбраная рыза да абраза (19,5×23,5). Слуцк. 1801 г. Надпіс: 1801 года надана до църкви рождества лавникъ Фъдоръ Реутъ магистрату Слуцкаго и жъна Евдокія Димитровна.

144. Маленькі Хрыстос сьпіць на крыжу. Навакол — эмблемы мукі. На фоне краевіду. На палатне. 58×56.

145. Тэма, як 144. На палатне. 55,5×54.

146. Сьв. Мікалай (стоючы). Угары — Хр. і М. Б. На палатне. 60,5×91.

147. Сьв. Язэп трымае малога Хрыста. Унізе кленчаць духоўны і манашка (лацінскія). Угары два ангелы трымаюць істужку з надпісам: «Tua providentia gubernat omnia. Sap. 14». Пад надпісам — справа сэрца, прабітае стрэламі, зьлева — у коле надпіс: Vive Jesus. На палатне. 117,5×175.

148. Партрэт Уладыслава Ягеллы — копія на люстраваным шкле з арыгіналу. Рабіў копію Ф. Шоломіцкі ў Ольсе 10.IX.1849 г. Подпіс: Vladislaus Jagiello. Fun. Ecclesiae et Monastery Istius Anno Domini 1409.

149. М. Б. з дзіцянём, тэмперов. пісьмо, на ліповай дошцы. 17,7×23 см.

150. Хрыстос, алейная ікона на дошцы з 2 папярэчынамі (на...) У жоўтых тонах, частка вопраткі — выцісканыя аздобы. 22×27 см. Верхні край і фон ля галавы Хрыста — зьнішчаны.
Куплены ў Ярмаловіча ў Вільні 14.XI.36.

151. Дрэварыт: Хрыстос на Крыжу, паабапал дзьве жаноцкія постаці. На крыжу ініцыялы лацінскія. 40,5×61 см.

152. Дрэварыт: Хрыстос зьняты з Крыжа на руках у МБ. Надпісы кірылічныя. Подпіс: ПАВАЛ КОМАР, року 1750.—38×60 см.

153. Дрэварыт: МБ з Дзіцянём на руках. Надпіс папольску: Obraz cudowny NPM. Piaskowej w Krakowie. 39×61. Нехапае з правага боку палоскі 4 см шырыні (у $^2/_3$ верхняе часьці дрэварыту — зьверху ўніз). У рамцы — трыптыху. Набыта Ів. Луцкевічам з калекцыі ген. Жыркевіча ў Вільні (даваеннае).

154. Часткі двух дрэварытаў: 1) МБ. Барунская (нехапае ніжняе паловы) — з польскім надпісам; 2) верхняя частка дрэварыту з надпісам: ΣЪГЛАΣ.. ѲБѢХРАМЪ Па бакох — МРѲ — ИѠАН. (далей не расчытана).

155. Народны каляровы дрэварыт: Хрыстос упаў на калені, нясучы крыж. За ім — МБ і жаноцкія фігуры. Многа фігур жаўнераў і жыдоў. Фон жоўты, калёры вопратак: бурачковы, цагляны, жоўты, чорны. Вымеры: 67,5×80,5 см. Без надпісаў.

156. Сьв. Марцін. Народны дрэварыт, тэхніка і калёры, як у № 155. Вымеры тыя-ж. Надпісы лацінскія. Год 1760. Ініцыялы дрэварытніка.

157. Хрыстос упадае пад крыжам. Надпіс: Obraz Pana Jezusa wtreciv vpatku. Тэхніка і калёры, як у двух папярэдніх (155 і 156). Вымеры: 36,5×44 см.

158. Народны дрэварыт: сьв. Юры на кані, коле смока. Над ім у небе ангелы; пад ім на зямлі ў полі карова і фігура чалавека кленчучы; збоку справа — места, перад ім — князь у кароне. Зьлева — касьцёл. Калёры яркія, жывыя. Вымеры: 71×87 см. Подпіс: Obraz S: Jerzego Patrona Wielkiego... другой паловы нехапае; павінна быць: Xięstwa Litewskiego R. 1711. Гэткі надпіс поўны ёсьць на дрэварыце ў літоўскай зборцы ў Шаўлях.

159. Народны дрэварыт (тыпу № 158): Хрыстос укленчыўшы, на ім сьляды бічаваньня, навакол на зямлі ля-

жаць эмблемы мукоў. У верхняй часьці навакол фігуры Хрыста — сем сцэн, датычачых укрыжаваньня. Вымеры 71×87 см. Надпіс: Obraz Pana Jezusa Wogroicy Klenczooego NAMODLITWIE... WILME. R. 1821.

160. Народны дрэварыт, як №№ 158 і 159: Маці Божая Астрабрамская. Навакол яе — сцэны цудаў. Унізе места ў вагні. Пад ім надпіс: ISTOTNE WYOBRAZENIE ŁASKAMI I CUDAMI SŁYNACEGO OBRAZU NAYSWIETSZEY PANNY MARYI LOKOWANEY NA OSTREY BRAMIE W WILNIE PRZY KOSCIELE WIELEBNYCH OYCOW KARMELITOW BOSSYH. Вымеры: 71×87 см.

161. Народны дрэварыт (тыпу 158, 159 і 160): Адам і Ева ў раю пад дрэвам, пакрытым яблыкамі; на дрэве — зьмей у чорныя і белыя клетачкі спакушае іх. Ля іх ног — алень, леў, птушка. Навакол усяго рысунку ўгары — markup рознакалёрная гірлянда і райскія птушкі. Надпіс: ADAM I EWA. Вымеры 71×87 см.

162. Плашчаніца, маляваная на палатне (65×101 см). Рабіў селянін Канст. Руды ў засц. Рудое, Глыбоцкае (даўней Верхнянскае) гміны Дзісьненск. пав.— для Верхнянскае царквы ў 1826 г. «апріля 2 дня».— Ад. гр. Міхалевіча.

163. А. Піотровскій. Партрэт архім. Анастасія Опоцкага, рэктара Літ. Дух. Семінарыі ў Вільні.— Ад грам. Данілы Сарнацкага ў Вільні. (pendent да № 26). 1887 г.

164. Абразок М. Б. з Дзіцянём, маляваны на дошцы, у срэбнай шаце з разьбой, апраўлены ў алавяную рамку. М. Б. і Дзіця — у каронах (сярэбр. пазал.). 1653 г. Вільня. На адвароце надпіс.

165. МБ, маляваная на медзі — рэпусаваная шата з разьбой, пазалоч. і пасярэбраная. Рамка з меднае бляхі — рэпусаван. з пазалотай.

166. Абраз М. Б. з Дзіцянём (пад рызай — фону няма). Рыза сярэбраная, аздобленая разьбой; М. Б. і Дзіця — у сярэбр. каронах. Рама драўляная — разьбаваная (ажурная).

167. Ікона маляваная на палатне, наклееным на дошцы. Хрыстос на троне, побач Марыя і Іоан, зьверху — два ангелы. Малюнак паднішчаны і падмалёваны. Памеры:

№№ 151—161. Набыты Ів. Луцкевічам з даваеннае калекцыі ген. Жыркевіча ў Вільні.

№№ 164—166. Набыўкі Івана Луцкевіча.

93×137. З Жодзішак, дзе арганісты зрабіў сабе з яе лаўку.— Дар гр. П. Сергіевіча. 21.VIII.37.

168. Ікона Маці Божае з Дзіцянём — у паветры, ніжэй — дзьве групы на зямлі. М. Б. «всех Скорбящих радость». 24,8×30,8 см. Малявана на дошцы, паедзена чарвямі. Куплена ў магазыне выпадковых рэчаў (Віленская, 8) 29.XI.37.

169. Ікона на дрэве. Малятура (?) на палатне, наклееным на дошках — на пазумэнце. Хрыстос і сьв. Ян стоючы (увесь рост). Фон разьбаваны па золату. Памеры: 91,5×119 см. З Гародна, Столінскага пав.,— ад а. Льва Гарошкі (5.1.1938) — XVII ст.

170. Абразок на палатне, маляваны з абодвух бакоў, ад старое харугвы. З аднаго боку — МБ; з другога — сцэна ў Эмаўс (Хрыстос і два вучні за сталом), усе постаці без барод. Памеры: 42×52 см. Народная работа. З Гародна к. Століна. Ад а. Льва Гарошкі (5.1.38).

171. Дрэварыт, які мае 130 абразоў МБ, у 10 радох па 13 абразоў з подпісамі, XVIII ст., усё абведзена рамкай. На сіняватай паперы. Памеры: 84×115,5 см. Дзьве вялікшыя вырвы з левага краю, у іншых месцах тры малыя. З калекцыі ген. Жыркевіча ў Вільні (даваеннае).

172. Ікона, як 169,— фігуры тыя-ж, толькі ў процілежным кірунку. Хрыстос падняў правую руку, як да багаслаўленьня... і памеры, як 169.— Набыта праз пасрэдніцтва а. Льва Гарошкі (май — 1938).

173. Абраз М. Б. на палатне, наклееным на дошцы. М. Б. стаіць залажыўшы рукі, як да малітвы. На жываце — у сьветлым крузе чырвоныя літары IHS, пад імі — чырвонае сэрца, із каторага выходзяць уверх тры чырвоныя стрэлкі ў кірунку літараў. Навакол пастаці МБ, як быццам гірлянда, шэсць ангелаў: два ўгары побач з галавой МБ трымаюць над ёй карону, над каторай — сьв. Дух у пастаці галуба, два пасярэдзіне з авальнымі белымі шчытамі з польскімі вэрсэтамі (такія-ж шчыты маюць і два першыя ангелы); унізе — паабапал ног МБ — адзін ангел зьлева дзержыць лілеі, другі — справа — нахінены ўніз дзержыць белы ліст з польскімі надпісамі. Памеры: 95×80 см. З Нецечы, Лідзкага пав. Дэпозыт П. Сергіевіча.

**Канец будзе.**

# ІНВЭНТАРНАЯ КНІГА
# Музэю ім. Ів. Луцкевіча Беларускага Навуковага Таварыства ў Вільні
# № 1

Пачата 3 чэрвеня 1922 г.

## Т. Фольклёр

1. Колекцыя вотаў з воску, складаных на ахвяру ў царкву: 1) фігурка чалавечая; 2) фігурка дзіцяці; 3) вочы; 4) сьвінка; 5) конь; 6) выцісьненая чалавечая фігура; 7) сьвечка. Куплены ў Будславе Ів. Луцкевічам у 1910 г.

2. Фігура коніка гіпсу васкаванага крэмовага колеру з воску. З Вярхнянскае царквы, Глыбоцкае гміны. Стаяла (разам з № 3) пад абразом сьв. Міколы. Калі захварэла у селяніна жывёла, дык прыносілі з тэй хаты пасму лёну ці воўны і трэсьлі над гэтай фігурай, каб хвароба перайшла на яе, а пасьля той лён ці воўну пакідалі пад абразом, як ахвяру на царкву. Экспонат і тлумачэньне атрыманы праз гр. А. Міхалевіча 9/II. 1934.

3. Фігурка каровы з Вярхнянскае царквы Глыбоцкай гміны. Значэньне і паходжаньне, як № 2. Гіпс-воск. Дужа абламаная: ногі, рагі...

4. Арыгінальны каравай з цеста пшонага белага, прысланы з Ваўкавыскага пав. у рэдакцыю «Нашае Нівы» у 1913 г. Размер: 21,6×17,5×8,5.

5. 9 яечак-пісанак (крашанак) з Ваўкавыскага пав.

6. 3 яечкі-пісанкі з в. Гарасімовічы Дубоўскае гміны (каля Ражанага Стоку) Сакольскага пав. Чорны фон, белая аздоба. Ад вучня VII кл. Віл. Бел. Гімназіі Ніканюка. 20.IV,1931.

7. Дошка да вырабу «Крашаніны» (адбіваньня ўзораў на палатне). Тэхніка: дошку мачылі ў разьведзенай гліне і прыкладалі да рассьцеленага палатна, прыстуківаючы малатком, каб гліна ўбілася з узораў на палатно (стуль

---

Пачатак у №№ 1—4, 1995 г.

назоў «набойкі»). Калі ўвесь кусок палатна быў ужо гэ так «набіты» глінай, яго прасушывалі, пасьля клалі фарбу. Як палатно афарбавалася, яго ізноў прасушывалі і тады выбівалі гліну. У мяйсцох, дзе была прыстаўша гліна, палатно аставалася белым, і гэтак тварыўся белы ўзор на афарбаваным фоне.

8. Дошка да вырабу «крашаніны». Гл. № 7. Склеяна 2 дасок слаямі на крыж. На дасцэ 120 матываў орн. Раз мер даскі 14,5×16×4.

9. Дошка да вырабу «крашаніны». Гл. № 7. 17×17×3,5. Як вышэй. Орн. матываў 32.

10. Цацка з галубамі з дрэва тонкае работы. Выраб вязьняў у Горадзенскім вастрозе (з даваенных часоў). Размер: 30×23×16. Ахвяра Ів. Ігн. Краскоўскага. Арн геомэтрычны. Падфарбавана чырвон. і сіняй фарбай.

11. Табакерка бяроставая овальнай формы з в. Кукаў цы, Вялейскага пав. Аздобы выцісканыя. Размер 7,7×3,7×4,4. Ахвяра Паўліны Мядзёлкі.

12. Табакерка бяроставая с ременным хвосцікам овальнай формы. Аздобы выструганыя. Размер 6,1×3,6×4,5.

13. Табакерка бяроставая, без аздоб. Овальнай формы. Размер: 7×4×4,1.

14. Табакерка мядзяная, круглая. З м. Каросна, Наваградзкага пав. (30 вёрст ад Наваградку). Дэпозыт Балеслава Данейкі. Багаты арнамент рэзаны геометр.

15. Мядзяная табакерка, аздобленая разьбой, некалі была пазалочана. Багаты орн. рэзаны рококовы.

16. Круглая драўляная каробачка, точаная і памалёваная. Жоўтая с орнам. у кветкі чырвонай, зялёнай і чорнай фарбай.

17. Круглая драўляная каробачка, крышка аздоблена разьбой. Работа грубая. Бэйцаваная цёмна-карычневым колерам.

18. Коўшык драўляны. Размер 8,7×4,5×5,3.

19. Коўшык драўляны. Размер 17×7×11,5.

20. Драўляны бязьмен (малы). Маляваны цёмна-карычневы з бронзавай акоўкай. На ўстаўленым воланve літары S. S.

21. «Бірка» прыгожа аздобленая разьбой.

22. «Бірка» аздобленая разьбой.

